Дадатак да „Камунара Магілеўшчыны".

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ТЭРАРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

№ 15 Нядзеля 16 сакавіка 1930 г. № 15

## Праз сталую міжзборавую работу ўзьнімем баявую падрыхтоўку тэрчасьцей

## Да збору перскладу

З 15 сакавіка мы праводзім зборы пераменнага складу нашай дывізіі. Зборы маюць дзьве задачы: першая —правесьці шэраг тактычных заняткаў з пераменьнікамі ў зімовых умовах, палепшыць у сувязі са зборамі ўсю нашу міжзборавую работу, якая зараз у сувязі з суцэльнай калектывізацыяй мае ўсе падставы для лепшага разгортваньня.

З другога боку —усім нам, у першую чаргу партарганізацыям, начскладу трэба галоўную ўвагу зьвярнуць на пытаньні баявой падрыхтоўкі і дапамагчы мясцовым органам у галіне калектывізацыі і падрыхтоўкі да вясеньняга севу.

У галіне падрыхтоўкі работы да збораў мы павінны дабіцца арганізаванай яўкі ўсіх пераменьнікаў.

Правесьці тактычныя заняткі такім чынам, каб яны былі для пераменьнікаў навочна паказальнымі. Начскладу і партаргарізацыям у сувязі з аглядам міжборавай работы дабіцца, каб пераменьнік стаў сапраўдным актывістам ў галіне вайсковай работы ў калгасах.

Згуртоўваючы персклад навакол генэральнай лініі партыі, неабходна, каб пераменьнік сапраўды зьяўляўся прыкладам, зачынальнікам і арганізатарам калгаснага будаўніцтва.

Надпіскай на вайсковыя газэты трэба ахапіць усіх байцоў—пераменьнікаў. Сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва павінны стаць сапраўдным мэтадам нашае работы.

Галоўная задача—гэта пасьпяховае правядзеньне збораў. Сюды—усе сілы і сродкі. Нам неабходна ўдзельнічаць у справе калектывізацыі. Больш увагі на пасіленьне работы сярод батрацтва і бедныты. Мець на ўвазе, што ў калгасах ня ўсё яшчэ падрыхтавана да севу: не адрамантаваны інвэнтар, не падрыхтавана рабочая жывёла, няма яшчэ пляноў севу. Трэба мець на ўвазе, што зараз задача месьціцца ў тым, каб замацаваць нашыя дасягненьні, каб не дапусьціць ні ў якім выпадку спроб кулацтва падняць сваю галаву і весьці агітацыю за разбор аграмаджанай рабочай жывёлы, сродкаў вытворчасьці і насеньня. Задача ў тым, каб перайсьці на новы статут сельскагаспадарчай арцелі, выпраўляючы тыя памылкі, якія былі зроблены на мясцох пры аграмаджаньні жывёлы, а таксама там, дзе былі памылкі ў адміністраваньні пры калектывізацыі. Праводзячы нашую работу шляхам разгортваньня палітычнай работы сярод бедняты, дапамагаючы парт'ячэйкам вёскі ў справе калектывізацыі, памятаваць, што мы ня ўдзельнічаем ні ў якіх адміністрацыйных мерапрыемствах у гэтай галіне.

І апошняе—часьці павінны праверыць і наладзіць работу ў вайсковых гуртках, кутках, дапамагчы у набыцьці стрэльб, падручнікаў і г. д.

Паасобна паставіць перад праўленьнямі калгасаў пытаньне вайсковай прапаганды. У калгасах больш усяго ўмоў для разгортваньня апошняй. Патрабаваць, каб калгасы падвялі матар'яльную базу пад работу па ваенізацыі.

Усе гэтыя задачы мы павінны выканаць на 100 процантаў! *М. З.*

## Капіталістычная выведка

Імпэрыялісты ўсіх колераў і адценьняў крычаць аб выабражальнай прапагандзе і ўмяшацельстве СССР ва ўнутраныя справы буржуазных дзяржаў.




Хто сунецца бяз спросу,—застанецца бяз носу.

## Пераменьнікі ў калгасы!

*Пераменьнікі некалгасьнікі 7-ой роты № імя Башсаўнаркому палка па нарадзе аднагалосна сказалі: „Адабраем палітыку і мерапрыемствы камуністычнай партыі і ўлады па суцэльнай калектывізацыі сельскае гаспадаркі.*

*Зьвярнуўшыся са збору дамоў, абяцаем уступіць у калгасы.*

*В.*

## Пад уплывам кулака

У в. Сухарах Лупалаўскага раёну на агульным сходзе бядняк-пастух з'агітаваны кулакамі, выступіў супраць калгасаў кажучы: „у калгасе нават ня будзе часу памаліцца богу".

Але працоўнае сялянства гэткаму выступленьню дало рашучы адпор, зразумеўшы выгаднасьць калгасаў, шкоднасьць рэлігіі--ворага сацыялістычнага будаўніцтва. *Падпасься.*

# Агляд міжзборавай правядзем па-баявому

**Праверым удзел у ваенізацыі ўсіх мясцовых арганізацыяў**

**Адкажам сусьветнай буржуазіі ўзмацненьнем тэрчасьцей**

## Правесьці агляд па-бальшавіцку

Работа з чырвонаармейцамі пераменьнікамі ў большасьці часьцей нашай дывізіі на сёньняшні дзень яшчэ застаецца слабым месцам. Ёсьць прыклады, калі камандзіры рот ( № стралковы імя Башсаўнаркому) за гэтую зіму ні разу ня былі ў раёне камплектаваньня роты. Гэта сьведчыць, што яшчэ маюцца недапушчальныя адносіны і нядбайнасьць да міжзборавай работы, абы-якія адносіны некаторых асоб начскладу да баявой падрыхтоўкі пераменьнікаў.

Мы маем гэткія факты, калі камандзіры едуць на раён праводзіць растлумачальную працу па калектывізацыі і забываюць зусім аб рабоце з пераменьнікамі.

Яшчэ да гэтага часу камандаваньне часьцей ня досыць поўна ажыцьцяўляе кіраўніцтва міжзборавай і асабліва недапушчальнай зьяўляецца недастатковасьць кантролю над гэтай важнейшай работай.

Трэба з усёй рашучасьцю канстатаваць, што партыйныя, савецкія і грамадзкія арганізацыі Магілеўшчыны пакуль-што далёка ў баку стаяць ад міжзборавай работы. Міжнароднае становішча зараз, як ніколі, вымушае нас узяцца за ўзьняцьце баявой падрыхтоўкі пераменьніка на яшчэ большую вышыню, у поўнай адпаведнасьці з падвышэньнямі і запатрабаваньнямі, узрослай -вайсковай тэхнікі.

ЦК КП(б)Б абвясьціў агляд міжзборавай работы з пераменьнікамі, дапрызыўнікамі і пазавайскавікамі.

> „...Агляд міжзборавай работы павінен зрабіць моцны зрух у справе прыцягненьня ўвагі пралетарскай грамадзкасьці да пытаньняў вайсковай небясьпекі, умацненьня абарона-здольнасьці СССР, далейшай мабілізацыі пераменьнікаў, уневайскавікоў і дапрызыўнікаў на выкананьне задач, пастаўленых камуністычнай партыяй па калектывізацыі вёскі, ліквідацыі кулацтва, як клясы, і гэтым паскарэньне сацыялістычнай перабудовы вёскі" (з пастановы ЦК КП(б.Б).

Задача агляду—шляхам масавай саправеркі выявіць сапраўдны твар вайскова-палітычнай работы з пераменьнікамі і дапрызыўнікамі ў паміжзборавы перыяд. Некаторыя часьці маюць значныя дасягненьні і цікавыя вопыты работы з пераменьнікамі (Аранбурскі полк). Неабходна дабіцца, каб вопыт Аранбурскага палка быў пераняты і іншымі часьцямі дывізіі.

Агляд павінен выявіць, чаму большасьць пераменьнікаў ня выконваюць індывідуальных заданьняў і дабіцца зьнішчэньня гэтага недахопу. Праверыць работу гурткоў вайсковых ведаў, вайсковых куткоў і самая галоўнейшая задача—поўнасьцю выявіць, як кіруюць і дапамагаюць справе абароназдольнасьці краіны мясцовыя партыйныя, савецкія органы, прафсаюзы і арганізацыі ТДА-авіахэму.

Агляд павінен выявіць, наколькі наш чырвонаармеец-пераменьнік, дапрызыўнік і ўневайскавік—прымаюць актыўны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве. Наколькі яны зьяўляюцца зачынальнікамі і перадавікамі ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Наколькі пераменьнік добра зразумеў палітыку партыі на вёсцы--ліквідацыю кулацтва, як клясы.

У нашай адказнай рабоце па агляду трэба будзе ня толькі адзначаць факты недахопаў работы. Гэта лягчэй усяго зрабіць, а **арганізаваць масы працоўных на зьнішчэньне гэтых недахопаў.**

Арганізацыя новых гурткоў, ажыўленьне работы старых, арганізацыя вайсковых куткоў, збор сродкаў на забесьпячэньне міжзборавай работы,усё гэта мы павінны рашуча высунуць перад усімі ўстановамі і калгасамі. Арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва—галоўнейшая частка работы па агляду.

Правядзем агляд па бальшавіцку, па-баявому. Узьнімем яшчэ вышэй баявую магутнасьць і абароназдольнасьць краіны, будуючай сацыялізм.

В. С.

## На закупку літаратуры

Работніцы працкалектыву панчошнікаў праз добраахвотную падпіску сабралі ў карысьць супрыхільнай вайсковай часткі 15 руб. 50 кап. Сабраныя грош пойдуць на закупку літаратуры.

Адначасова, работніцы панчошніцы **выклікаюць пасьледваць іх прыкладу работніц швэйнай фабрыкі.**

## Сорам Хахлову!

Пераменьнік 6 й роты № стралковага імя Башсавнаркому палка та Хахлоў поўнасьцю знаходзіцца па уплывам кулацтва. Ён кажа: «калектыўныя гаспадаркі будаваць рана, нас пасельніцтва да гэтага яшчэ н падрыхтавана".

Чаму Хахлоў не падумаў над ты што на 1 е сакавіка 55 процанта працоўнага сялянства СССР ужо арганізавалася ў калгас? Невядома, хт непадрыхтаваны да суцэльнае „калектывізацыі Хахлоў, ці працоўныя сяляне.

Факты кажуць, што непадрыхтава ны пераменьнік Хахлоў, які заме таго, каб ісьці наперадзе сацыялістычнага будаўніцтва, займаецца шкодны мі размовамі, чым дапамагае кулак

*Пераменьнік.*

## Там дзе сьпяць

Пераменьнікі вёскі Даманы, Уг наўскага сельсавету, вельмі дрэнна а носяцца да іх вайскова-палітычна навучаньня. Асабліва кепска яны н водваюць палітычныя заняткі.

На двох палітзанятках, праведзе ных настаўніцаю на пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва сельскае га падаркі, прысутнічала толькі на 6 ч лавек.

Старшыні груп не адчуваюць адка насьці за наведваньне заняткаў слух чамі. Яны не патрабуюць ад пер меньнікаў іх чырвонаармейскіх аб вязкаў.

Трэба рашуча падвысіць дысцыпл ну і адказнасьць пераменьніка за я баявую падрыхтоўку, патрабуючы тага ў першую чаргу ад старэйш груп.

*Чырвонаармеец.*

## Азяранцы адстаюць

У вёсцы Азер'і, пад уплывам кулацтва, беднята нерашуча запісваецца ў калгасы. За дзень у калгасы згадзіліся пайсьці толькі 5 сямей. У гэтай вёсцы трэба шырэй разгарнуць растлумачальную кампанію аб калектывізацыі і падрыхтоўцы да вясеньняга севу, аб барацьбе з кулацкімі ўплывамі, аб ліквідацыі кулацтва, як клясы.

*Ін.*

# Пастанова АК КП(б)Б

## аб правядзеньні агляду міжзборавай работы

Стварыць штаб па правядзеньні агляду міжзборавай работы з наступных асоб: Гольдшварца (старшыня), членаў: Сосінава (АК КП(б)Б), Кудмана (АСПС), Салаўёва (КСМ), ад „Чырвонага Крыжу“, „ТДА-Авіахэму“, Сеня (Палітаддзел), Гусева (Штадзіў).

У аснову пакласьці наступныя практычныя мерапрыемствы:

1. Агляд праводзіцца з 15 сакавіка па 1-е мая.

2. Да 15 сакавіка выпусьціць „Тэрармеец“, прысьвечаны агляду міжзборавай работы.

3. На далейшае ў кожным нумары газэты „Камунар Магілеўшчыны“ агляду аддаваць 300 радкоў.

4. У Быхаве і Клімавічах выпусьціць два друкаваных нумары газэты, прысьвечаных агляду міжзборавай работы.

5. Стварыць брыгады для абсьледаваньня міжзборавай работы ў гарклюбах, працы ТДА-Авіяхэму, „Чырвонага Крыжу“ і вясковых палітасьветустаноў.

6. У часе каротка-тэрміновых збораў пераменьнікаў правесьці масавыя гутаркі па разьдзяленьням, аб чым дамовіцца з палітаддзелам дывізіі.

7. Даць паказаньні аб асьвятленьні ходу агляду ў насьценгазэце.

8. Скласьці ліст да селькораў і вайскораў аб міжзборавай рабоце.

9. Выпусьціць два нумары радыё-газэты „Камунар Магілеўшчыны“, прысьвечаныя міжзборавай рабоце ў гарадзе.

10. Стварыць штабы правядзеньня агляду міжзборавай работы у раёнах з трох асоб: прадстаўніка РК КП(б)Б (старшыня), РВК (рэйпалітінспэктара) і ад райсавету ТДА-Авіяхэму.

11. Агляд скарыстаць і для падвышэньня тыражу газэты „Камунар Магілеўшчыны“.

12. Прапанаваць усім райкомам КП(б)Б, АК КСМ, фракцыям АВК і АПБ прыняць непасрэдны ўдзел у праводзімым аглядзе, праверыўшы ўдзел у міжзборавай рабоце нізавых арганізацый.

13. Зьвярнуць увагу ўсіх райкомаў на неабходнасьць разгортваньня міжзборавай работы з пераменьнікамі, асабліва ў калгасах, склаўшы ўсе ўмовы для гэтай работы.

## З Княжыц трэба браць прыклад

Вёска Княжыцы Магілеўскага раёну ўваходзіць ў раён нашай 1 роты камплектаваньня. Трэба адзначыць, што з усяго Княжыцкага сельсавету вёска Княжыцы па ваенізацыі працоўных ідзе наперадзе.

Зараз усе працоўныя сяляне гэтай вёскі ўвайшлі ў калгас. У Княжыцах існуе вайсковы куток, і, трэба сказаць, ён працуе добра. Пры кутку арганізаваны вайсковы гурток, які налічвае ў сваіх шэрагах 20 чалавек. Гурток займаецца рэгулярна. Пры кутку маецца дробна калібэрная стрэльба, з якой часта пераменьнікі праводзяць стральбу. Трэба сказаць, што пераменьнікі ў параўнаньні з другімі вёскамі сельсавета тут таксама ідуць наперадзе ў справе сваёй вайсковай падрыхтоўкі. Напрыклад яны добра выконваюць індывідуальныя заданьні. Нядаўна праўленьне калгасу абгаварвала пытаньне ваенізацыі калгасьнікаў, і ухваліла выпісаць стрэльбу, пабудаваць ціры і г. д.

Справа ваенізацыі і работа з пераменьнікамі ў Княжыцах пастаўлена добра таму, што гэтым, як належыць, кіруе партыйная ячэйка.

*С. Н.*

## Пераменьнік, бяры прыклад

Пераменьнікі № стралковага імя Башсаўнаркома палка па 7-дзённым зборы падпісаліся на розныя вайсковыя газэты ў колькасьці 1141 чалавек. Гэта яскрава сьведчыць пра вялікую палітычную сьвядомасьць нашага чырвонаармейца-пераменьніка.

*Ул-а.*

## Каапэрацыя ў ваенізацыі

Пытаньне вайсковай прапаганды на вёсцы, у калгасе з усёй сілаю вымушае ад усіх мясцовых органаў і арганізацыяў лепшых адносін да справы ваенізацыі працоўнага сялянства.

Асаблівая роля ў гэтай справе належыць каапэрацыі. Яна не толькі павінна ўзяць на сябе некаторыя матар'яльныя выдаткі па забесьпячэньні ваенізацыі, як гэта зрабіла каапэрацыя вёскі Талкачы (Шклоўшчына), яна павінна заняцца снабжэньнем некаторымі вайсковымі прыладамі вайсковых куткоў, гурткоў, ціраў. Трэба дабіцца, каб каапэрацыя ў часе агляду міжзборавай работы заняўся гэтым пытаньнем. Няхай падумаюць нашы каапэратары, чым яны могуць да памагчы справе падвышэньня абароназдольнасьці краіны.

*Барысаў.*

## Галоўчынская ячэйка ТДА-Авіяхэму, прачніся!

Яшчэ ў 1928 г. была арганізавана ў мястэчку Галоўчына ячэйка ТДА-Авіяхэму, але ніякай працы з моманту перавыбараў бюро ячэйкі не праводзіцца, бо новае бюро ячэйкі зусім не цікавіцца сваёй працай.

Заняткі і сходы ячэйкі не праводзяцца і не ўцягнуты ў гэтую працу актыў пераменьнікаў. Нічога не зроблена па распаўсюджваньню білетаў 4-ай лётарэі ТДА-Авіяхэму". Дык ці не пара было-б ужо ўзяцца за практычную працу ячэйкі і пакінуць сьпячку.

*Крапіва.*

## Раўняйся па лепшых!

Нядаўна Рыжкаўскі вайсковы гурток, Шклоўскага раёну, правёў конкурсную стральбу. Прымала ўдзел 20 таварышоў, галоўным чынам, пераменьнікі.

Лепшымі стралкамі аказаліся таварышы: Мурашка, Дрынга, Адамаў, Аўдакаў, Паўловіч, Капыткоў. Усе гэтыя таварышы за лепшыя дасягненьні ў стральбе атрымалі па падарунку.

Астатнім трэба раўняцца па лепшых стралкох.

*Гіц.*

## Выкрыць кулакоў

### Праверыць абляжэньне ў Лубянцы

Кулачча пасёлку Лубянкі вядзе шалёную контр-рэвалюцыйную агітацыю супроць суцэльнай калектывізацыі і мерапрыемстваў савецкай улады. Пасёлак Лубянка—гэта чорная пляма на фоне калектывізацыі—кажуць быхаўцы—і гэта праўда. А калі нашая брыгада зацікавілася, чаму зрываецца калектывізацыя ў пасёлку, дык вось што выявілі:

Кулацтва перад сходамі працоўных сялян склікае свае кулацкія падпольныя сходы, на якіх абгаварваюць метады зрыву калектывізацыі. Мы даведаліся, што кулацтва праводзіла свае сходы у 2-х месцах. Кулакі страшаць гарадзецкіх камунараў падпалам маёмасьці. Відаць, што падатковая палітыка тут была клясава не вытрыманая, бо няма ніводнага індывідуальна абкладзенага, а абкласьці ёсьць каго. Зараз мы ўзяліся за выкрыцьцё кулацкай дзейнасьці.

*Бараўкоў*